1-10, 12-13

Год II. Студзень. № 1 (11).

# Шлях Моладзі

… „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".

ЯНКА КУПАЛА.



Lietuvos TSR Centr. Biblioteka Mokslų Akademija
106835

ВІЛЬНЯ, 1930 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 1.

1. Ад Рэдакцыйнай Калегіі, 2. Дзяўчаткі адгукнецеся — Ч. Х., 3. Моладзь адзічэла — Янка Ваўштолскі, 4. Беларуская моладзь пяі свае песьні — К. Матусэвіч, 5. Прэч з дарогі — Марвіч, 6. Барацьба — Казлоўшчык, 7. Ты змагаўся — Малады, 8. Сумна — Міколка-Круцёлка, 9. Сенажаць — М. Машара, 10. Душу агарнуў маю цень — Леанід спад Вішнева, 11. Ой нікому такому (народная песьня)— запісаў Я. Салавей, 12. Песьня цыганкі — Наддзьвінец, 13. Лісты, 14. Хроніка, 15. Усячына, 16. Наша пошта.

„Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска месячна . . . . . . 35 гр.
„ на паўгода . . . . . . 2 зл.
„ на год . . . . . . . . 4 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год II. | Вільня, — Студзень 1930 г. | № 1 (11). |
|---|---|---|

## Ад Рэдакцыйнай Калегіі.

Мінуў ужо цяжкі, бо багаты ў голад, дарагоўля і прасьлед, 1929 г. Яго месца занаў новы год 1930. І так мінаэ год за годам, а народ наш беларускі цярпіць усьцяж няволю, недастатак культурны і матэр'яльны.

Вядучы далей у новым годзе нашу выдавецкую працу, якая мае на мэце пашыраць асьвету і ўзгадовываць беларускую моладзь на добрых грамадзян беларусаў, не адрэчы будзе глянуць на яе прошлае і будучае.

У сакавіку 1929-га году, калі заснавалася Рэдакцыйная Калегія „Шляху Моладзі", было нас усяго 6 асоб бяз ніякіх матэр'яльных магчымасьцяў. Праз 10 месяцаў вялі мы мазольную выдавецкую працу, знаходзячы падтрыманьне ў старэйшым грамадзянстве і выдалі 10 нумароў „Шляху Моладзі".

Не абмінула нас рука польскае адміністрацыі, якая, як ведаем, сканфіскавала нумар 10-ы „Шляху Моладзі" і гэтым, не гаворачы аб іншых наступствах, прычыніла страту нашаму выдавецтву.

За гэты час здабылі мы сабе нямала падпішчыкаў і супрацоўнікаў з розных слаёў беларускага грамадзянства: асоб з вышэйшай адукацыяй, маладых беларускіх паэтаў, моладзі сялянскаў, местава-работніцкай, а так-жа вучняў, студэнтаў, працоўнай інтэлігенцыі і поўінтэлігенцыі вёскі і места.

За той-жа час пасунулі мы справу йшчэ далей, бо стварылі ініцыятыўную групу таварыства беларускай моладзі і апрацавалі статут.

Ясна, былі недахопы ў рэдагаваньні і выдавецтве, на што зварочвалі нам увагу нашы супрацоўнікі

106835

Lietuvos TSR Centr. Biblioteka Mokslų Akademija

і чытачы. І так за мінулы 1929-ы год былі такія галаўнейшыя ўвагі: расшырыць, пабольшыць часопісь, увясьці сталы аддзел для дзяцей, аддзел народнае творчасьці, разрывак, гісторыі, географіі, літэратурную крытыку і т. п.

Бязумоўна,—пажадана было-б, каб адзіная часопісь беларускай моладзі была пабольшана, але тут стаіць на перашкодзе справа матэр'яльная, бо трох сяброў рэдакцыйнае калегіі друкароў, ня могуць столькі працы пасьвяціць для справы ідэйнае, каб магчы выпушчаць гэту часопісь у большым фармаце (мусяць-жа яны запрацаваць для сябе на пражыцьцё), а дасюлешняя падпіска і ахвяры на гэта таксама не пазваляюць. Каб маглі мы пабольшыць нашу часопісь, — як сябром рэдакцыйнае калегіі, так супрацоўнікам нашым і падпішчыкам трэба энэргічна ўзяцца за працу ў гэтым кірунку.

Да гэтага нумару далучаецца афішка аб ,,Шляху Моладзі", каторую кожны, хто дбае аб дабро свайго выдавецтва, павінен вывесіць у публічным мейсцы (на рынку ў часе торгу, каля царквы ці касьцёла ў дзень сьвяточны), дзе-бы кожны мог яе прачытаць.

Тады, калі лік падпішчыкаў павялічыцца яшчэ і калі яны акуратна будуць плаціць грошы на выдавецтва, тады часопісь зможа выходзіць у большым фармаце, часьцей і нават з ілюстрацыямі.

Што датыча далейшых уваг, робленых нам у мінулым годзе, дык тут усё залежа ад ахвоты да працы тых, хто мае здольнасьці да пяра. Вось жа той, хто гэтыя здольнасьці мае і хто бача, што чагось патрэбнага няма ў ,,Шляху Моладзі", павінен тое напісаць і прыслаць да друку.

Далейшая праца Рэдакцыйнае Калегіі, што да кірунку ідэйнага, бязумоўна пойдзе тымі самымі каляінамі, якімі і дагэтуль ішла.

У гэтым годзе Рэдакцыйная Калегія ,,Шляху Моладзі" мае выдаць беларускія календары на наступны 1931-ы год: адзін кішанковы з месцам для нататок, другі насьценны (карту). Абодва календары будуць

бясплатнымі дадаткамі для акуратных падпішчыкаў нашай часопісі. (календары ўжо ў апрацоўцы).

Але і гэта справа вымагае таксама коштаў грашовых. Вось-жа маем надзею, што падпішчыкі нашы зразумеюць свой абавязак і дапамогуць нам у гэтым сваей акуратнасьцю што да падпіскі, а так-жа будуць пашыраць часопісь.

Дык, Дарагая Моладзь — ад цапа, плуга, малатка, станка, пяра, школьнай лаўкі — вазьмі пад увагу многапакутную долю нашае Бацькаўшчыны, нашага гаротнага народу і стань шчыльнымі радамі да працы дзеля яе лепшае будучыні!

Мы, моладзь беларуская, ня мелі доўга магчымасьці працаваць у гэтым кірунку, але цяпер, калі маем свой орган, дык улажыма ў яго свае ўсе сілы, каб ён быў тым агнём, што нясе сьвятло ў цемры і цяпло ў халадзіну акамянеласьці!

*Рэдакцыйная Калегія.*

# Дзяўчаткі, адгукнецеся!

Праглядаючы „Шлях Моладзі“ за мінулы год, мяне застанавіла блізу поўная адсутнасьць якога-небудзь супрацоўніцтва з боку дзяўчат. Ня гледзячы на старанныя ўніканьні ў зьмест друкаваных артыкулаў і подпісы пад імі, я нідзе не заўважыў якоганебудзь сьледу „прыгожага полу“. Выняткам у гэтым сэнсе хіба будзе прысутнасьць аднае дзяўчыны ў рэдкалегіі часопісі, але-ж гэта не заўсёды можа быць доказам актыўнага ўдзелу ў працы.

Аб ролі дзяўчыны ў грамадзкім жыцьці пісаў ужо летась М. Пецюкевіч у № 4 „Ш. М., але артыкул ягоны быў скіраваны перадусім да хлапцоў, а не да дзяўчат. Я-ж хачу беспасярэдна зьвярнуцца да аб'екту свае пісаніны, хачу сказаць пару слоўцаў самым дзяўчатам. Няхай яны мне выбачуць, што буду гаварыць публічна, а не на вушка, як гэта ім мо'лепш падабалася-б, але гэтак можа хутчэй зразумеюць, аб што ідзе гутарка.

Дэвізам нашага веку ёсьць поўная грамадзкая свабода і роўнасьць жанчыны з мужчынай. Часы матрыярхату і патрыярхату мінулі безпаваротна і залогам гэтага зьяўляецца выяўленьне жанчынамі ўсяго сьвету штораз большай зацікаўленасьці агульналюдзкімі справамі. Няма ў Эўропе ўжо

краю, дзе-б жанчына не заявіла аб сваіх правох роўнасьці і ня прыняла ўдзелу ў грамадзкім жыцьці. Нават у найбольш адсталай пад гэтым поглядам Турцыі ў апошні час выявіліся эманцыпальныя імкненьні жанчын. Мы зьяўляемся сьведкамі ўсіх падобных працэсаў і праходзіць моўчкі міма іх ня можам. Знаходзячыся ў сэрцы Эўропы і зьяўляючыся краем земляробскім, дзе праца жанчыны ні ў якім выпадку, пры дасюлешніх спосабах гаспадараньня, ня можа быць стаўлена ніжэй і лягчэй мужчынскае, мусімо мець сьвядомае сваіх абавязкаў і заданьняў жаноцтва. Беларускі працоўны народ на шляху да лепшае долі павінен мець у сваіх радох нароўні жанчын, як і мужчын. Жанчына беларуская мусіць неадкладна заявіць аб сваіх правох і арганізавацца на ўзор жанчын іншын братніх народаў — (Саюз Украінак) у свае жаноцкія саюзы, каторыя ў меру разьвіцьця стварылі-б друкаваныя органы свае думкі. Моладзь і ў дадзеным выпадку павінна згуляць адпаведную ролю. Беларускія дзяўчаты павінны жыва завінуцца над працай на родных гонях, павінны супрацоўнічаць з хлопцамі на кожнай ніве і ня толькі не адставаць ад іх, але старацца здабыць пяршынство ў некаторых галінах працы. Першае-ж і самае галоўнае, гэта — узяць самым голас у сваіх справах на бачынах „Шляху Моладзі“. Хай гэты артыкул будзе апошнім хлапцоўскім заклікам, хай прамовіць дзявоцкая амбіцыя і яны самі загавораць аб сабе. Чакаючы гэтага, клічу яшчэ раз: Беларускія Дзяўчаткі, адгукнецеся!

Ч. Х.

# Моладзь адзічэла.

Падчас калядніх сьвят прышлося мне пабываць у некаторых вёсках Ашмянскага і Валожынскага павету. Што я там чуў і што бачыў, хачу напісаць у сваю часопісь „Шлях Моладзі.“ Паглядзеўшы на моладзь, здаецца, што магла-б працаваць на сваей роднай ніўцы і для свайго сярмяжнага народу. Але ня так ёсьць, як думаецца; думаецца адно, а робіцца другое. Вось-жа і моладзь наша — заместа ўзяць кнігу ў рукі, або газэту і пачытаць у вольную часіну, або зладзіць прадстаўленьне-вечарыну, займаецца зусім чым іншым.

Моладзь наша ня хоча працаваць; яна гуляе ў карты, валачэцца па вячорках, п‘е гарэлку і займаецца разбоем. Вось да якога дзікарства даходзіць моладзь. Нават жывёла і тая гэтакага глупства ня робе, якое робе чалавек, Божае стварэньне.

Моладзь, апамятайся, ты кепска робіш! Гэта да дабра не давядзе і далей гэтак жыць ня можна.

На другі дзень сьвят, ідучы да Барун, спаткаў я нейкага мужчыну з в. Копцевіч.

Вось я й пытаю ў яго — як-жа ў вас моладзь жыве, чым займаецца?

А ён адказаў: — эх, ведаеш паночку, наша моладзь нічога няварта. Яна за картамі сьвету ня бача.

А як я паехаў у вёску Войштавічы, Валожынскага павету, дык там і завяршылася. Проста — стыдна пісаць.

Вёска гэта дужа вялікая, моладзі шмат, маглі-б нешта добрае зрабіць для Бацькаўшчыны, алеж куды там. Моладзь там у дні сьвятыя, а нават і ў буднія зьбіраецца ў хаты і там заводзяць сваркі, а пасьля бойкі і ўрэшце заводзяць суды. А цяпер яшчэ панялі моду, як толькі дзяўчына прыдзе на вячоркі, дык яны яе ловяць і цягнуць у цёмны кут. Дзеля гэтага дзяўчаты на вечарыну мусяцьісьці з братам, або з бацькам. Словам — дзікарства, якога яшчэ ніколі ня было.

Дык, Моладзь дарагая, пара табе ўжо апамятацца!

**Янка Ваўштолскі.**

# Беларуская моладзь, пяі сваé песьні!

Песьня, як кажа наш пясьняр Янка Купала, гэта Божы дар, дык шанаваць яе трэба. Песьня ў жыцьці людзей займае самае пачэснае месца. З песьняй на вуснах людзі моляцца Богу, песьняй весяляць сябе, песьняй разганяюць людзі свой сум, нуду, сваё гора-бяду. Як па твары пазнаюць чалавека, так па песьні, асабліва народнай, пазнаецца цэлая нацыя, яе характар, душа. Песьня — гэта быццам нейкая вялікая сіла, якая памагала і памагае будзіць народ ад сьпячкі, заахвочывае іх да працы, падымае з цеммры, кліча на абарону сваей Бацькаўшчыны і інш. Вось чаму ў многіх народаў песьня даўным-даўно заваявала сабе пачэснае месца і яе справядліва шануюць, як вялікі ўсенародны скарб.

Маем і мы, беларуская моладзь, сваю родную беларускую песьню. Маем, але к нашаму сораму мы яе забываем. Мы чураемся сваей песьні, быццам затое, што яна „простая“ „мужычая“, а пяём сапраўды брыдкія расейскія ці польскія частушкі, пяём песьню, прынесеную нам з польскай казармы. Гэта сумнае зьявішча ў нашым жыцьці мы

павінны паправіць сьпевам сваей роднай, беларускай песьні. Пара нам, беларуская моладзь—ужо зразумець, што наша песьня, гэта ёсьць спадчына вякоў, сьвятая спадчына нашых бацькоў і дзядоў. Трымацца сваей песьні мы павінны дзеля таго, каб не замерці нам у сваім духовым разьвіцьці, каб вальнейшым часам павесяліцца, аддыхнуць душою.

Родная песьня можа прыдаць сілы і энэргіі, так патрэбных нам, беларускай моладзі, дзеля прыняцьця ўдзелу ў беларускім адраджэнскім руху.

Трэба раз назаўсёды разьвітацца з поглядам на нашу песьню, як нейкую „мужычую“, „дзяцінную“, наша песьня мае толькі характэрных асаблівасьцяў, што ей цікавіцца ўвесь сьвет, доказам чаго можа служыць выстаўка ў Маскве, дзе наша песьня заваявала шмат сабе сымпатыяў.

Дык няхай-жа наша песьня ня гіне, ня ўцікае, а галасна і вясёла вырываецца з грудзей кожнага Беларуса, з грудзей усей беларускай моладзі і магутным рэхам разлягаецца па лясох, нівах! Няхай наша песьня ўскалыхне, прабудзе кожнага Беларуса да працы, да асьветы, да сьвядомага жыцьця на карысьць усяго Беларускага Народу, на карысьць нашай Бацькаўшчыны—Беларусі!

**К. Матусэвіч.**

# Літэратурны аддзел.

## ПРЭЧ З ДАРОГІ!

Прэч з дарогі юды, каты,
Тут ляціць ваяк заўзяты.
Ўжо пара трупоў пабраці,
У зямлю даўно схаваці,
Тут займуць плацоўку воі.
Павадырам іх сягоньня
Будзе нашая „Пагоня“.
Іх аружжа—гэта міласьць,
Перамога— справядлівасьць,
Ім на помач праўда Божа —
Яна ўсенька пераможа.
Дык з дарогі, штаб прадажны!
Ўжо ідзе ваяк адважны
Занімаць сваю пляцоўку —
Ён ня здасца за „гатоўку“,
Ваяваць ён будзе сьмела,
Хоць-бы кроў з грудзей цурчэла,
А „паддамся“ ён ня скажа,
У магілу покуль ляжа.

Хто ня верыць ў сваю сілу,
Хай жывы ідзе ў магілу,
Хай тут месца не займае
І жывым не замінае.

**Марвіч.**

## БАРАЦЬБА.

Я ня буду пець аб тошнай,
аб няшчаснай, злой судзьбе;
запяю аб дружнай, моцнай,
аб заўзятай барацьбе.
Бо ці нам дадуць што сьлёзы,
нараканьні на бяду,
слаць ляпей бядзе пагрозы,
біць, ніштожыць ту брыду.
Нашы продкі наракалі,
вылівалі мора сьлёз —
ці пацеху атрымалі?
Кожны з іх ў няволі рос.
І ня дзіва: толькі сіла
панаваньне мая ў нас,
справядлівасьць дык магіла
дзесь забрала на папас.
Бог ўжо так стварыў прыроду,
яна права нам дала:
каб жывінка ад уроду
ў барацьбе ўсьцяж жыла.
Галаву даць за свабоду,
злыдняў з сотню палажыць —
зробіш больш дабра народу,
чымся вечна з плачам жыць.
Дык гартуй ты, дружа, сілу
борзда дзеяй, бійся ўсьцяж,
а як трэба, дык ў магілу
за свабоду сьмела ляж.
А з тваей жыцьця ахвяры
уваскрэсьне помсты дух;
збурыць ён маны аўтары,
змусіць праўдзе даць паслух.

**Казлоўшчык.**

## ТЫ ЗМАГАЎСЯ...

(Ахвярую тым, хто за кратамі).

Ты змагаўся за долю людскую
І яе ты ня змог,
Ты любіў праўду сьвятую
І за гэта папаў у вастрог.

Ты ішоў праціў віхраў і буры,
Сьмела праўдзе ў вочы глядзеў
І астаўся верны Айчыне —
Яна век не забудзе цябе.

Ты змагаўся із горам няпраўды
І аддаў у ахвяру сябе
І за гэта замкнуты за краты,
Каб твой сьветач пагас на зямлі.

Ты сядзіш, як птушка у клетцы,
Але ёсьць вольны душой
І дзьверы шчыльна замкнуты,
Каб не распаляў сьветач ты свой.

Ня сумуй-жа, мой браце,
Твой сьветач гарыць ўсё ясьней
І незадоўга дажджэсься часіны,
Што ўбачыш ты праўды сваей.

**Малады.**

## СУМНА.

Сумна, ой сумна на сэрцы
И чаго? — Не магу я згадаць.
Хацеў-бы, здаецца, памерці,
Каб гэтага суму ня знаць
Ды жаль Старонку дарагую
І хочацца пярвей чым умярці,
Карысьць, хоць якуюсь малую,
А усё-ж-такі Ей прынясьці.

**Міколка-Круцёлка**

## СЕНАЖАЦЬ.

Чуеш посьвіст—рытмічна-пявучы?—
Гэта сьвішча у лузе каса.
Гэта бой там сьмяротна-кіпучы,
Гэта праца сьпявае касца.

Пад узмахамі зьяючай сталі
Усё зьнікае ў пакоры з пуці;
Што красой так душу парывала,
Што жадала так жыць і расьці.

Разьляглiся даўгiя пракосы,
Бы байцы ў бойцы зьгінаўшы тэй,
А каса і касец за ей босы
Пераможна шагаюць далей.

Чуеш посьвіст? — рытмічна пявучы,
Гэта сьвішча у лузе каса,
Па закон барацьбы нямінучы—
Гэта гіне жыцьцё — для жыцьця.

**М. Машара.**

## ДУШУ АГАРНУЎ МАЮ ЦЕНЬ.

Пачуў, як гітара раз грала,
Як зыкі трагічна плылі,
Ў ей кожная струнка стагнала
Ў ей думкі ўспамінаў жылі.
Здавалася — кожная струнка
Старалася выліць свой жаль,
Як быццам у стогне і енку
Адходзіў у таемную даль.
Тоны дрыжэлі, стагналі...
Душу агарнуў маю цень —
Здавалася — струны хавалі
Надзеі астатняй прамень.
Яны мае сэрца будзілі
Для цяжкіх ўспамінаў і сьлёз,
Суму балючага хвалю
Гоман тых струнаў прынёс.
О, лепей, каб я вас ня слухаў,
Каб сэрца ад вас я замкнуў —
Тагды-бы я сэрцам ня плакаў
І болю у сэрцы ня чуў!...

**Леанід с пад Вішнева.**

## ОИ НІКОМУ ТАКОМУ.
(Народная песьня).

Ой нікому такому,
Як мне сіраціні,
Ніхто не прыгорне
Пры ліхой гадзіні.
Ды ніхто не прыгорне
Пры ліхой гадзіні:
Ня прыгорне бацька,
Ня прыгорне маці,
Толькі, той прыгорне,
Хто думае ўзяці.
Наляцелі гусі
З далёкага краю,
Дый памуцілі воду
Ціхаму Дунаю.
Ой, бадайжа вы гусі
З пер'ечкам прапалі,
Як вы нашу пару
Да й распаравалі.
Запісаў у Несьвіскім пав.

**Я. Салавей.**

—:—

# Песьня цыганкі.

Чаму гэта? Чаму яна так часта стаіць у маіх вачох? Я чую боль ад яе погляду, веючага сумнасьцяй глыбокай восені. Гдзе яна цяпер?

Я помню наша спаткaньне, як-бы здарылася яно ўчора... Быў вечар. На небе што-раз больш і больш загаралася зорак. Лёгкі павеў летняга ветру далікатна датыкаўся да лісткоў дрэваў. Яны ўздрыгівалі, як-бы палохаючыся збліжэньня начы. Месяц выплыў і абліты нейкім страшна крывавым блескам, жудасна спаглядаў на зямлю. Я непарушна сядзеў на беразе ракі пад старой асінай. Яна дрыжэла, але сусём інакш, як усе дрэвы. Яе лісткі дрыжачы, шумелі нешта бязконца сумнае, моў хаўтурную ці пакутную песьню. Здавалася яна плакала над доляй сваіх сясьцёр асін і бяроз. Плакала над доляй сваей. Здавалася, што шаптала — нашто мы? Чаму маем быць гульбой ветру, што ў час буры з дзікім выцьцём пахваце ў свае абоймы, страсяне аж да карэньня, рване лісты, абліе іх зімным дажджом і панясецца гдзесь далёка, хістаючы вяршыны маладых асін, а ломячы старыя. Старая асіна, здавалася, плакала па тым, што і яе некалі ў час буры рване віхор і павале на сырую зямлю, а сам панясецца далей.

Плач асіны навеіў у маю душу грабавую сумнасьць. І ў маей душы праняслася бура, а зрабіўшы спусташэньня, пакінула сьмаротную цішыню. Жыцьцё сталася нечым агідным, прыносячым муку і жаль сябе, людзей і ўсяго. І ў мне дакучала думка, нашто я, нашто яны...

Там на беразе лесу я чуў крыкі і сьпевы. Гэта былі цыганы. Яны, нядаўна прыехаўшы, расклалі агонь і раскладаліся на начлег. Ім, пэўне, добра жыць!... Іх душа, мусіць, ня знае буры, а толькі пагоду — ціхую, ясную, як лета. Ім відаць міла запушчацца штораз далей і далей у няведамы край, паміж няведамых людзей, каб знайсьці лепшую долю, ды зноў ісьці далей, бо да гэтага змушае нясьведама іх натура. Ды нашто мне гэта знаць?... Я адчуваў, што ім добра. Ім добра мець свабоду. Гэта ўлюбенцы прыроды. Пайду да іх... Мо' забудуся аб сьвеце, людзях, мо' знайду тое, чаго не знайшоў дагэтуль.

Агонь гарэў, трашчаў, узнасіўся вышэй і вышэй. Яго полымя парываў вецярок, хіляў у бакі, то ціснуў да зямлі. Але ён ізноў вырываўся і ясьнейшым полымем страляў у гару, высока адрываючыся ў іскрах і гаснучы ў цемрах ночы. Каля мяне сядзеў стары цыган, пaглядаючы што раз часьцей на мой твар, асьвечаны агнём, на мае вочы, угледжаныя ў цемру ночы. „Што табе ёсьць? — запытаўся. — Ты такі малады, а ўжо, здаецца, збратаўся з няшчасьцем. Мне цябе

так шкода!“ — Я маўчаў. Тады яна вышла, няведаю скуль... і, палажыўшы сваю руку на маім плячы, так-жа сказала: „што табе ёсьць?“

Я глянуў і ўбачыў яе, маладую цыганку, пекную, як павеў вясны. Яе густыя, чорныя валасы, як ноч, далікатна абтулялі палавіну дзявочага стану, рассыпаючыся ў цудоўныя кольцы. Яе вочы пры сьвятле вогнішча блішчэлі дзіўна, надаючы твары сумную задуму, тугі аб чымсь утрачаным, ці маючым яшчэ знайсьціся... Яе твар троху смаглы, аздоблены сабалінымі брывямі і сьвежымі вуснамі пацягваў да сябе мой узрок, чараваў яго гіпнатызуючы і адбіраў сілу волі, каб адарвацца, каб уцячы дзесь зноў далёка, ад можа зноў часовага толькі уражаньня, абману ці сугестыі. Але яна зразумела мяне: „чакай, сказала, песьня мая дасьць табе супакой. Ты захочаш жыць. Яна цябе ўскрасе“... І я чуў яе песьню...

Чуў, як у сьне, у летаргу, ня меў сілы крануцца, каб сказаць даволі, бо песьня гэта адчыняла жыцьцё маё...

І зноў у вачох маей душы пераходзілі цені прошлага і нешта чапалася струн майго сэрца. Яны зноў разбрынчеліся — спачатку ціха, ціха... як плюшчэньне майскага дождэыку, шэпт радасьці ў гэткую пару травы і зельля, што растучы, сьмяялася да сонца, дажджу, расы... Далей брынчэньне струн было крапчэйшае, было як шум красуючага жыта, яшчэ далей як звон сярпоў, касы, як сьпевы, музыка... вясельле...

Аж урэшце парваліся тонкія вясельныя струны і пачуўся нейкі тон разлукі, плач маткі, выпраўляючай сына ў чужую старану.

Яна скончыла песьню... Твар яе меў выгляд прарочы, мо' хацела, кончыўшы песьню мінуўшага, распачаць песьню будучыні...

Я прачуў гэта, але мінулае гнала з вачэй маіх горкія сьлёзы жалю па ўсім, што было зьнікла дзесь безпаваротна. Нешта падышло пад грудзі, сьпёрла дыханьне. Сэрца забілася вальней, неяк зашчамілася, як-бы хацела адпачыць, перарваць непатрэбнае калыханьне і застыць на векі ў ціхім спачынку. Я больш не чакаў... Нада мной чувалася, як гудзеў віхор, гуляючы паміж вяршынамі дрэў. Яны шумелі, стагналі, здаецца — ўспаміналі і жаліліся на тое, што было, прайшло і больш ніколі ня вернецца...

**Наддзьвінскі.**

---

*Грамадзяне, прысылайце грошы на „Шлях Моладзі!“*

# Лісты.

## ДОБРЫ ПРЫКЛАД.

**В. Арэхаўка**, Браслаўскага пав. Тады, калі зусюль надходзяць весткі, што беларуская вясковая моладзь паступае вельмі ня культурна, п'е гарэлку, ды займаецца разбоем, — у нашым кутку ўсёжтакі пануе спакой. І так, у цяперашнія доўгія зімовыя вечары, наша моладзь, сабраўшыся, паскача, пасьпявае беларускія песьні, пачытае беларускія газэты і разыйдзецца спакойна. Астаецца толькі пажадаць, каб гэта згоднае жыцьцё і далей йшло сваей простай каляінай і каб беларуская сярмяжная сялянская моладзь яшчэ больш працавала для падняцьця культуры і для адраджэньня Бацькаўшчыны Беларусі.

**І. Пупін.**

## П'ЯНСТВА ПАШЫРАЕЦЦА!

**Грыцэвічы,** Нясьвіжскага пав. П'янства — гэта страшное няшчасьце беларускага селяніна, асабліва моладзі. У нашай Грыцэвіцкай воласьці яно ня спыняецца, а пашыраецца з кожным днём. З гарэлкаю наш селянін гэтак парадніўся, што ня можа з ей расстацца. Што-бы не рабілася ў хаце селяніна: хрэсьбіны, вясельле, хаўтуры, гарэлка абавязкава будзе. Прадаў не прадаў, купіў ня купіў, а за „барышом" ужо пасылае. Калі палічыць, колькі было няшчасьлівых выпадкаў пасьля гэтай гары, толькі ў ваднэй нашай Грыцэвіцкай вол. дык валасы становяцца дубам. Цяпер у нас п'юць усе: мужчыны, жанчыны, старыя, хлопцы, дзяўчаты і дзеці. П'юць, п'юць, а пасьля разбой, паліцыя, пратаколы, суды, а часта і сьмерць. Грошы на гарэлку наша моладзь дастае зладзействам. Забяруцца да якога-небудзь гаспадара ў сьвіран, павыцягваюць з кублоў сала, каўбасы, шынкі і — гайда ў Клецк. Пахваліцца гэткай спрытнасьцю могуць некаторыя хлопцы вёсак Капланавічы, Мервіны, Цясноўка і інш. Даўней хоць духавенства вяло барацьбу з гэтым злом, а цяпер дык ніхто. Ёсьць у нашай воласьці сьвяшчэньнік і ксёндз, але каб яны штонебудзь рабілі супроць гэтага зла, дык нешта ня чуваць. Беларуская моладзь, пакінь піць гарэлку, не атручывай свайго здароўя, ня псуй свайго жыцьця! Не глядзі, што нашы панкі і шляхцюкі п'юць, хай сабе п'юць на здароўечка, колькі ўлезе, мо' Бог дась яны і зьвядуцца ад гарэлкі, але нам, Беларусам, моладзі, трэба жыць і будаваць сваю лепшую долю.

**Юнак.**

# Хроніка.

**Судовае следзтва ў справе канфіскаты „Шляху Моладзі.“** 20 г. м. судзьдзя сьледчы на м. Вільню рабіў сьледзтва ў справе канфіскаты „Шляху Моладзі“ № 8, заклікаючы на выпыт рэдактара нашай часопісі Мар'яна Пецюкевіча і выдаўца Янку Багдановіча.

**Суд над б. паслом Тарашкявічам** за зроблены мітынг у Вільні 1926 г. мае адбыцца 24 г. м.

**Выдаленьня вучняў з беларускіх гімназіяў**. Нядаўна выдалены з Віленскай Беларускай Гімназіі 2 вучні і нескалькі вучняў з Беларускай Гімназіі ў Клецку; прыпісываюць ім „вывротовую“ працу. У гэтым часе некалькі вучняў Клецкай Бел. Гімназіі былі арыштаваны, якіх пасьля выпусьцілі пад назор паліцыі.

**Новая беларуская кнігарня ў Вільні,** заложаная нядаўна Т-вам „Рунь“, месьціца на Вострабрамскай вуліцы 18.

**Новыя часопісі і кніжкі**. Нядаўна пачалі выходзіць у Вільні такія новыя беларускія газэты: „Вучнёўскі Звон“, выдаваны Літэратурна-Гістарычным Гуртком Віленскай Бел. Гімназіі, адказным рэдактарам якой зьяўляецца гр. Р. Астроўскі, „Наперад“ Луцкевіча і „Сьвітаньне.“

**З студэнскага жыцьця**. 4 г. м. у Празе у Чэхаславаччыне адбыўся пяты зьезд Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх арганізацыяў. (АБСА.). Зьезд вынес пратэст супроць прасьледаваньня беларусаў чужацкімі ўладамі і заклік да пазытыўнае працы на грунце беларускага адраджэньня, а так-жа выразіў спачуцьцё ўсім пацярпеўшым ад тэрору у Радавай Беларусі.

**Беларускі каапэратыўны Банк у Беластоку.** 8 г. м. у Беластоку адбыўся першы арганізацыйны сход Беларускага Каапэратыўнага Банку ў Беластоку; прысутных было 17 асоб.

**Новая кніжка.** Вышла з друку новая кніжка, выданьня „Беларускай Крыніцы“, п. н. „Biełaruskija narodnyja pieśni z Sakolščyny“. Сабраў Ул. Казлоўшчык: кніжка абымае 40 бачын (старонак); цэнная як этнаграфічны матэрыял з заходніх рубяжоў Беларусі. Каштуе 50 гр. Купіць можна у кнігарні „Пагоня“ у Вільні.

**Культурная праца.** 26 сьнежня 1929 г. у Гуртку Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры у в. Шутавічах, Ашмянскага пав. была прачытана лекцыя гр. В. Шутовічам на тэму „Значэньне каапэрацыі у жыцьці грамадзкім“.

29 сьнежня 1929 г. у в. Шаўлянах вучнямі беларускае школы Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры было наладжана прадстаўленьне. Ставілі п'есу Ф. Аляхновіча

„Шчасьлівы Муж“. Народу было шмат.

5 студня с. г. у Гуртку Бел. Інстытуту Г. і К. у в. Сьвірыдавічах, Ашмянскага пав. была прачытана лекцыя гр. В. Шутовічам на тэму „Беларусь і Беларусы“.

7 студня с. г. Беластоцкая Акруж. Упр. Т-ва Бел. Школы ладзіла ў Беластоку ў Народным Доме Т-ва Бел. Школы спэктакль-ёлку. Маленькія мастакі, сярод якіх трэба адзначыць Марысю Парфенюк, згулялі дужа добра дзіцячую п'еску: „Ёлка Дзеда Мароза“. Пасьля спэктаклю, запаліўшы агні на ёлцы, сярод прыемнага сьвяточнага настрою, прысутным дзеткам, у ліку больш як 200 асоб, былі разданы падаркі.

8 студня с. г. у в. Сьвірыдавічах і 9 г. м. у в. Жэлігово, Ашмянскага пав., Беларускі Інстытут Г. і К. ладзіў прадстаўленьні з наступнай праграмай: пастаўлены дзьве п'есы: 1. „Лекары і лекі“, 2. „Мікітаў лапаць“, а так-жа былі дэклямаваныя вершы беларускіх паэтаў Купалы, Коласа і Бартуля. Людзей было шмат. Даход з прадстаўленьня ў суме 110 зл. прызначана на карысьць бібліятэкі-чытальні ў в. Сьвірыдавічах пры Гуртку Бел. Інстытуту Г. і К.

11 студзеня с. г. у Вілен. Бел. Гімназіі была адыграна вучнямі гэтае гімназіі опэрэтка „Наталка Палтаўка.“

18 студзеня с. г. Т-ва Бел. Школы ў Вільні ладзіла спэктакль-вечарыну ў Гандлёвым Клюбе пастаўлена была п'еса Лісенкі „Аднойчы вечарам“ і выступаў беларускі хор пад кіраўніцтвам гр. Г. Шырмы, які выканаў шмат новых і прыгожых беларускіх песьняў. Пасьля былі скокі.

19 студзяня с. г. Акр. Бел. Уп. Т-ва Бел. Школы ладзіла прадстаўленьне; ставілі драму Аляхновіча „Дзядзька Якуб“.

**З Польшчы**. Урадавы крызыс закончыўся і прышоў новы ўрад, які мала розьніцца ад першага. Ад новага ўраду ня можна спадзявацца якіхнебудзь зьмен. Цяпер адбываецца буджэтовая сэсія Сойму і вядзе працу констытуцыйная камісія у справе зьмены констытуцыі.

— Апошнім часам у Польшчы вельмі пашыраецца безрабоціца. Паводле астатніх даных пасярэдніцтва працы за час ад 21 да 28 сьнежня было 184.427 безработных. Гэта цыфра, ў параўнаньні з прошлым тыднем, павялічылася на 12.733 асобы

— На 12 лютага мае быць скліканы Сабор Праваслаўнай Царквы, які будзе працаваць тыдні два, разглядаючы царкоўныя справы.

**З заграніцы**. Месяц студзень 1930 г. вельмі багаты ў міжнародныя канфэрэнцыі. І так, адбывалася канфэрэнцыя ў Газе, у Галяндыі, дзе разглядалася справа сплаты даўгоў Нямеччыны. Канфэрэнцыяся гэта закончыла памысна; адбывалася так-жа паседжаньне Лігі Народаў у Жэневе, а так-жа ў Лёндыне марская канфэрэнцыя ў справе разбраеньня на моры.

— Амэрыканскі дзяржаўны скарбовы ўрад настолькі быў акуратны, што ў канцы 1929 г. зьвярнуў сваім платнікам надвыжку падатку ў суме 190 мільёнаў даляраў.

— Эстонскі прэзыдэнт мае прыехаць у адведзіны ў Польшч.

— Турцыя апошнім часам вельмі шыбкім крокам ідзе да эўропэізацыі. Астатнім важным там фактам гэта ёсьць пастанова сьвяткаваць замест пятніцы, нядзелю.

У Даніі нядаўна ў уставадаўчай палаце большасьцяй галасоў пастаноўлена скасаваць кару сьмерці.

— Фінлянскі Найвышэйшы Суд падаў прапазыку ў уставадаўчую палату скасаваць забарону прадаваць алькагольныя напіткі, тлумачачы, што забарона гэта прыслужылася да вялікага росту праступніцтва.

— Літва—гэта найшчасьлівейшы бадай край што да безработных. Даведываемся, што там блізу сусім няма безрабоцьця.

— У Нямеччыне вельмі часта адбываюцца бойкі паміж камуністымі і сацыялістамі, а так-жа нацыялістамі — Безрабоціца пашыраецца.

У Англіі безрабоцьце таксама пашыраецца. — Нядаўна была там вялікая бура, якая прынясла шмат шкоды.

— Францыя зброіцца; у гэтым месяцы апрацавала праект будовы новых караблёў.

—У С.С. Р.Р. у часе каляд былі роблены ўсялякія перашкоды, каб толькі не дапусьціць да ўрачыстага сьвяткаваньня Божага Нараджэньня. Апісаньням газэтным проста ня хочацца верыць, каб людзі маглі дайсьці да такога зьдзічэньня.

— Італія таксама зброіцца, асабліва на моры.

—У Кітаі, у паўночнай часцы, пануе вялікі голад, а такжа і беспарадкі.

— У Бэрліне адбываецца суд над фальшыўшчыкамі бальшавіцкіх чырвонцаў. Шайка фальшыўшчыкаў, паходзячая з Каўказу, мела вялікае падтрыманьне ў багатых кругох бадай усяго сьвету, яна мела падняць паўстаньне ў С. С. Р. Р. Не ўдалося ім гэта з прычыны выкрыцьця іх нямецкай паліцыяй.

## Усячына.

**Першая жанчына судзьдзёй**. У Літве ў гэтым месяцы грам. Янкевічайте назначана на судзьдзю акружнога Суду. У Літве гэта першы выпадак.

**Самагубства 15 000 асоб**. У Японіі ў адным з большых мест Осакі за апошні год папоўніла самагубства 15.000 асоб.

**Расстралялі 4.101 асобы**. Як падаюць газэты, за месяц так зв. „кулацкага тэрору“ ў С.С.Р.Р., каторы трываў ад 15 кастрычніка да 15 лістапада, камуністычная ўлада расст-

раляла 4.101 асобу. Расстраляны былі пераважна праціўнікі выдаваньня збожжа для савецкай улады, для так зв. „хлебазагатоўкі“.

**Дар Рокфэльлера.** Амэрыканскі мільярдэр Рокфэльлер ахфяраваў на разбудоўку мэдыцынскага факультэту парыскага ўнівэрсытэту 6 мільёнаў даляраў. Але пры гэтым зазначыў, што такую самую суму на гэту мэту мусіць ахвяраваць і меставая каса Парыжа. Вось-жа, хоць самаўрад Парыжа ня мог зразу заплаціць такой сумы, аднак пастанавіў гэтае ахвяры не адкідаць, г. зн. што згадзіўся таксама ахвяраваць 6 мільёнаў даляраў.

**Здэфраўдаваў 26 000 зл.** Нядаўна сэквэстратар Віленскае Скарбовае Ізбы Селецкі прысвоіў 26.000 зл. Калі гэта выкрылася, Селецкі хацеў папоўніць самагубства, падразаючы сабе жылы, але гэта яму не ўдалося, у хуткім часе будзе ён суджаны.

**Банкруцтвы.** Пішуць газэты, што за тры чэцьверці прошлага году ў Польшчы збанкрутавала 290 фірм. Трэба зазначыць, што ў 1928 г. аб'яўлена 288 банкруцтваў. Адным словам, ідзе да „лепшага“.

**Анальфабэтызм.** Паводле апошніх падлічэньняў у Польшчы ёсьць 3 мільёны анальфабэтаў (неграматных), маючы больш як 10 гадоў.

Найбольш анальфабэтаў прыпадае на нашае Палесьсе, дзе няграматных налічаецца 75 проц., найменш на заходнія рубяжы Польшчы — 2 проц.

**Цікавае здарэньне.** Нядаўна ў Варшаўскім жыдоўскім шпіталі было такое здарэньне. Дохтар шпіталя, змучаны працай, лёг у салі для хворых на ложка адпачыць і заснуў. Пасьля прышлі насільшчыкі трупоў і не разглядаючыся ўзялі на насілкі дохтара і панесьлі да трупярні. Калі яны былі на сходах, дохтар прабудзіўся і пабачыўшы што яго дзесь нясуць, запытаўся, што гэта за жарты. Насільшчыкі, пачуўшы голас „нябошчыка“, кінулі насілкі і ўцяклі, пры тым так перапалохаліся, што трэба было іх дзьве гадзіны чуціць. Дохтар-жа, падаючы на сходы, моцна пабіўся.

**Арол б'ець селяніна.** Селянін з в. Сяменчыкі, Празароцкай гміны, Дзісьненскага пав. 23.XII.1929 г. заўважыў на дрэве тры вялікія птушкі, якія яго вельмі зьдзівілі. Калі-ж ён да іх прыглядаўся, дык дзьве птушкі спужаліся і ўцяклі, а трэцяя кінулася на селяніна. Селянін, бачачы, што кепская справа, маючы кій ў руцэ — пачаў бараніцца і забіў гэту птушку. Аказалася, што гэта быў арол.

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*

*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

## Наша пошта.

Я. Салаўю. Ваша ўвага вельмі слушная. З матэр'ялаў прысланых, як бачыце, карыстаем. „Дзіва“ ня можам зьмясьціць, бо магло-бы абурыцца праваслаўнае духавенства. Просім пісаць больш.

Ш. Уласік. Часопісь высылаем, пашырайце яе сярод сваей моладзі. Чакаем падпіскі.

Я. Жуку. ,,Ш. Моладзі“ вам высылаем, чакаем падпіскі, календар можаце выпісаць з кнігарні ,,Пагоня“ ў Вільні, Людвісарская вул. 1.

С. Жалюбчыку. Ваша ўвага вельмі слушная, з матэр'ялаў будзем карыстаць, дзякуем, пішыце больш і пашырайце нашую часопісь сярод сваей моладзі, Граматыку Тарашкевіча можаце выпісаць з кнігарні ,,Пагоня“ у Вільні, Люд ісарская 1.

Маладому. Вершы Вашы да друку падходзяць, будзем зьмяшчаць. Пішыце карэспандэнцыі з жыцьця беларускага сялянства, а так-жа зьбірайце матэр'ялы этнаграфічныя з народнага творства, як народныя казкі і песьні. Пашырайце ,,Шлях Моладзі“.

Юнаку. Карэспандэнцыю зьмяшчаем.

К. Матусэвічу. Стацьцю атрымалі, як бачыце, зьмяшчаем, дзякуем, пішыце больш.

І. Пупіну. Матэр'ял атрымалі, карыстаем, кніжыцу вышлем, вершаў вашых не атрымалі. Зьбірайце матэр'ялы з народнай творчасьці, як песьні, казкі і прысылайце ў Рэдакцыю ..Шлях Моладзі“, Вільня, Завальная 6.

А. А. Верш атрымалі, да друку не падходзе, пішыце карэспандэнцыі.

Ар Ар. Вершы Вашы атрымалі, дзякуем, да друку падходзяць, зьмяшчаць будзем у наступных нумарох. Рэшта вершаў, прысланых раней, так-жа добрыя, будзем друкаваць.

Трэпку. За пажаданьні дзякуем. Верш Ваш вельмі добры, зьмесьцім яго ў наступным нумары. Просім пісаць больш.

С. Пяюну. За пажаданьні дзякуем. Доўга ўжо Вы нам нічога ня пісалі, чакаем.

Маладому Кавалю. Матэр'ялы атрымалі, дзякуем. Будзем карыстаць. Пажадана было-б, каб Вы вершы пісалі так выразна, як карэспандэнцыю. Просім пісаць больш.

Алекс. Дубавіку. Матэр'ял атрымалі, будзем карыстаць, пішыце больш.

Бондар М. Карэспандэнцыю атрымалі, дзякуем, зьмесьцім у наступным нумары, пішыце больш.

На просьбу ,,Шлях Моладзі“ высылаем: П. Сыроквашу, Харку Альбіну, Захару Сокалу, М. Ключановічу, А. Луцкевічу, С. Таляронку, Мальку Міхалу, Місуно Мі-

Przesyłka opłacona ryczałtem.

калаю, Бураку Яну, М. Люцкевічу, Л. Селезьнёву, Я. Рацкевічу, С. Жуку, К. Несцеровічу, Півашу Ст., Куліне С., Ярмаку М. Чакаем абяцанай падпіскі.

Атрымалі падпіску на „Шлях Моладзі" ад: Інж. Дубяйкоўскага 10 зл., кс. П. Татарыновіча 5 зл., Адваката П. Сьвірыды, Г. Гуральчука, Антона Караля, Паумяскага па 4 зл. К. Сьветавастокава 3 зл. Яна Маціаса, сьв. Ул. Савіцкага, Дубавіка Алекс., Саўка Мар. па 2 зл.; Мілянчука 2 зл. 50 гр., Мацука, Кучынскага П. па 1 зл. Дзякуем, „Шлях Моладзі" высылаем.

**Выйшла з друку новая кніжка**

## „Rodnaja mowa ŭ światyniach"

Кс. А. СТАНКЕВІЧА.

Цікавая гэтая кніжка апісвае калі і дзе ў каталіцкіх касьцёлах былі беларускія казаньні.

ЦАНА 1 зл. 50 гр.

Купіць можна ў ва ўсіх беларускіх кнігарнях, а так-жа можна выпісаць поштай. Галоўны склад: кнігарня „Пагоня" Вільня, Людвісарская вул. № 1.

## Танная прадажа беларускіх кніг.

БЕЛАРУСКАЯ КНІГАРНЯ «ПАГОНЯ»
(Вільня, Людвісарская № 1.)

прадаўжае танную прадажу беларускіх кніг, якіх сьпіс кнігарня высылае каждаму, хто прышле на гэта марку паштовую на 10 гр.

Кнігарня на кожнай з празначаных для таннай прадажы кніг робе значную ўступку, а на некаторых уступае палавіну (50 проц.)

ТАННАЯ ПРАДАЖА ўжо пачалася і будзе трываць да 20.II 1930 г.

Грамадзяне, пасьпяшыце скарыстаць з гэтай рэдкай аказіі!

УВАГА: Кніжкі высылаюцца поштай па атрыманьні ўсей вартасьці заказу, або накладной платай (за побранем) па атрыманьні аднэй трэцяй часткі вартасьці заказу.